# ПАГОНЯ

**Адрэс рэдакцыі і канторы:**
Вуліца Адама Міцкевіча, 13-а.
Тэлефон № 23.

Рэдакцыя адчынена што дзень
ад 1—2 гадз.
Кантора адчынена што дзень
ад 8—3 гадз.

**ГРАМАДЗКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ.**

ВЫХОДЗІЦЬ ЧАСОВА РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

**Падпіска каштуе:**
на 10 № № ўпярод — 10 зал.
„ 5 „ „ — 5 „
Кошт асобнага № — 1 „

**Рукапісы**
не прынятыя да друку назад не вертаюцца; прынятыя аплачываюцца па погляду Рэдакцыі.

Абвесткі ўселякага разьмеру прыймаюцца коштам за радок маленькага друку 2 залаты на опошняй страніцы незалежна ад зьместу.

**№ 6.** | **Коўна, Чацьверг, 2 верэсьня 1920 году.** | **Год I-шы.**


Рэдакцыя Пагоні атрымала ад ведамага літоўскага паэта I. Турчынішкіса, верш, які падае тутакі ў перакладзе на беларускую мову.

## Літвін Беларусу.

Дай руку, брат, і вот табе мая рука!
У будучыне мы пойдзем разам.
Нашы прадзеды вякі жылі у еднаньню
I адлічаліса паміж сабой толькі назовай.
Беларусы і Літвіны змагаліся за вольнасьць
I ў баёх былі найлепшымі сяборамі.
Ў небяспецы яны стаялі друг за дружку
I дзялілі агульныя радасьці і гора;
Яны йшлі па позьве друг за дружку,
Каб супольна біцъ маскалёў і палякоў;
Яны ўмелі мсьціцъ ворагу за іх ўразы,
А дабытое дзяліцъ на роўны часткі
Нашых зямелъ ад-лецъ граніцы не дзялілі,
Мы супольна уладалі бязьмежнымі лясамі.
Нашы бацькі не сварыліса друг з дружкай
I жылі як дзеці аднэй маці
У іх былі агульныя алтары і багі,
Дзела іх быў супольны вагонь свяшчэнны,
Беларусы і жмудзіны адбывалі агульныя
ахвярапрынасіны;
I ўсіх купала агульнага Нёману хваля.
Але шчасьця ад нашых дзядоў адвярнулася:
Іх прысілілі маскоуцы і палякі.
Гарызонт абыдвох народаў памрачыўся
I настаў праклятьі час няволі.
Пабядзіцелі хутка перавярнуліся у вашых катаў:
Яны бязбаронным скавалі рукі й ногі;
Яны перашкодзілі вам шляхі да сьвету й волі
I як вурдулакі ссалі вашу духоуную моц.
Мова вашых бацькоў была ўзбаранена;
Дзеля яе была замкнута дзьверъ ў школу.
Вашы вучыцелі былі караны турмамі . . .
Старонка пагрузілася ў бязпрасьветную цямру.
Вы яшчэ доўга будзеце ўспамінацъ цягло палякоў:
Яны загубілі шмат маладога жыцьця,
I з уздрыганьнем успомніце,
Як вас паны зьмянялі на сабак.
Палякі зробілі вам многа кроўных ўраз,
Вы доўга цярпелі сьцяўшы зубы;
Яны не аднаго бяз віннасьці ўгналі ў магілу . . .
Згінула надзея лучоў будучыны.
Яны таптаді вашу душу й мучылі ваша цела,
Ставючы людзей ніжэй жывёлаў;
Яны вас зневажалі, штургалі, называлі быдлам
I бяз літасьці сяклі усё жарстчэй.
З таго часу на хрыбтах вашых старыкоў
Да гетага часу засталіся сьлады пугі.
Яшчэ доўга будуцъ страшыцъ ваабразьню
вашых ўнукаў
Казацкія канчукі і польскія батогі.
I мы цярпелі можа ня меньш вас
Дзеля таго, што ў нас былі агульныя каты.
Але мы раней ад вас пачалі барацьбу за вольнасьць.
I ўжо вырвалі ў іх нашу незалежнасьцъ.
Дай руку, сябра, у нас табе мейсца знайдзецца
I ніякі вораг у Літве цябе ня ўразіцъ;
Деля яе ты будзешъ паўнапраўны грамадзянін
I гарачо яна прыжме цябе к грудзі, як роднага.

Каўна. 1920. I. Турчынішкіс.

## Дэклярацыя
### Старшыні міністроу Д-ра ГРЫНЮСЯ,

(Канец).

У працы па асьвеце у краю прад Урадам стаіць цэлы сьцяг ваеных заданьняў. Намерываючамуся увясьці паўсемеснае обавязковае абучэньне Ураду будзе хадзіць аб стварэньню сеці пачатковых школ і прыгатаваньню дзеля пашырэньня асьветы пэрсаналу вучыцелеў, бяручы пад увагу канечныя патрэбы народавай меншасьці ў Літве. Само жыцьцё выказывае патрэбу закладаньня ніжэйшых і сярэдніх школ заводавых. Тагды ўселякая ініцыятыва грамадзянства на гэтым полі будзе падтрымліваціа Ўрадам. У зьвязку з гэтым, Урад будзе шукаць шляхоу зьніштажэньня таго ненармальнага абьяву, што у Літве паадчыняны аднаго вышэйшага тыпу школы агулова-адукуючыя. Апрыч таго, Урад будзе старацца, каб завязцы маладой ўласнай вышэйшай учэльні былі запэўнены, насколькі мажліва, адпаведныя варункі расквіту. Да гэтага часу давадзілася чучь жальбы з прычыны цяжкага эканамічнага палажэньня вучыцэлеў, што прымушае іх шукаць лепей аплачаных пасад. Ўрад будзе старацца аб паляпшэньні матэрыяльных варункаў жыцьця вучыцелеў, паскольні ачывіста у гэтай і іншых патрэбах асьветы пазволюць сърокі нашага краю. Першае заданьне Міністэрства Справядлівасьці—упарадкаваць суд, які здаволіваў бы інтэрэсы усіх жыхароў, быў бы хуткі, справядлівы і да усіх дасяжны, але упарадкаваньне суду на паказаных падставах у цяперашніх варунках—есьць труднае заданьне і ня можна спадзевацца на яго зараз-жа. Тута-ка мала добрых жаданьняў | Ураду трэба часу і дасьведчаных людзей—праўнікоў. Дзеля гэтага павінна быць зьвернута ўвага на ўвядзеньне у жыцьце уставу аб кандыдатах пры судах.

Ужо ёсьць інстытуцыі самоўрадовыя, а дзеля вядзеньня важнейшых крымінальных спраў мусяць быць заведзяны суды прысяжных. Другое заданьне прыгатаваньне адпаведных праектаў уставаў: кадэксу караючага і кадэксу працэсуальнага дзеля спраў цывільных, крымінальных і іншых. У гэтым напрамку немала ужо выканана Міністрам Справядлівасьці часовага Ураду. Прыгатаўленьне успомненых праектаў—важная і цяжкая праца, жыцьце-ж не чэкае і жадае залатвеньня шмат не церпячых адкладу пытаньняў. Сярод іх ёсьць пільная патрэбнасьць уставу аб апецэ і сукцэсу. Дзеля гэтага, не чэкаючы пакуль будзе створан і зацьверджан кадэкс цывільны, Урад думае пастарацца, каб гэныя ўсе уставы былі як найхутчэй выданы.

Апроч гэтага, Урад лічэ патрэбным у хуткім часе пераглядзець часовы устау аб хатах дзеля арэштаваных і упарадкаваць турмы.

Пабок важнейшых пытаньняў палітычных, перад Літвой стаіць пытаньне запэўненья такіх варункау жыцьця дзяржаўнага, у якіх народныя меншасьці Літвы, злучаные супольнай працай над адбудовай дзяржавы, свабодна разьвіваючы сваю культуру, мацней бы трымаліся звязанай агульным вузлом аднальковa усім дарагой грамадзкасьці.Засада гэта была абвешчана пры адбудоуле Дзяржавы Літоўскай і уведзена у жыцьце пры дапамозе цэлага сьцягу дэкляpацыйных актаў і уставаў. Цяпэрашні Урад, вядучы у далейшым працягу распачатую раней працу, выкажэ сваю склоннасьць да аутанамічных формаў, якія адпаведаюць пасьпелым народнай меншасьці інтэрэсам. Урад ясна бачыць: чэкае яго труднае заданьне правясьці свае намярэньне і, прадбачывая труднасьці, ўсе-ж становіцца да працы, апіраючыся на Установчы Сойм і на народ.

**З „Весьніку Часовага ўраду № 17. стр. 2.**

## Закон
### аб арэндаваньні прыватнаўласьніцкіх зямел.

1. Калі земляўласьнікі (уласьнікі зямель), маючыя 50, чы больш дзесяцін выраблямай у мэтах сельскай гаспадаркі маянтковай пахатнай і лугавой зямлі, ні самі асабіста, ні праз сваіх, законным чынам упоўнамочаных асоб, ня прымуць сваей зямлі ў сваё ўладаньне да 1 сакавіка 1920 году, то яна можа быць здана ў арэнду на больш доўгі час.

2. Срок арэнды ўстанаўляецца 3-х гадовы. У тым выпадку, калі дзеля адсутнасьці будынкаў з'яўляецца патрэбным у мэтах вядзеньня сельскай гаспадаркі, будавацца, успомнены срок можа быць працягнут да 6 гадоў.

3. Насколька з'яўляецца патрэбным строіць будынкі ў кожным асобным выпадку пастанаўляецца камісыяй створанай па распараджэньню Міністра Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці.

4. Разьмер арэнднай платы і другія умовы найму ўстанаўліваюцца згодна з законам „аб карыстаньні прыватнаўласьніцкіх маёнткаў" (ад 19 студзеня 1919 г.)

5. Па сканчэньні тэрміну найма і пры перадачы зямлі яе ўласьніку, апошні павінен разьлічыцца з арэндатарам за ўчыненыя ім законным парадкам выдаткі (гл. § 2) па пастройцы будынкаў і ўвядзеньні ў гаспадарку значных палепшаньняў. Калі ўласьнік зямлі і арэндатар ня прыдуць да згоды пры разьліццы, то ўмовы выплаты і надляжачая выплаце сума ўстанаўліваецца судом.

6. Для выплаты выдаткаў зробленых па сдачы ў арэнду паказаных у ст. 1 гэтага закону зямельі прыгляду за імі, адлічаецца ў карысьць Дзяржаўнай Скарбніцы 1/3 устаноўленай дагаворам арэнднай платы; астаўшыяся 2/3 выдаюцца ўласьніку зямлі, а пры яго адсутнасьці, уносяцца ў Дзяржаўную Скарбніцу, ў дэпазыт Дэпартамэнту Земляробства.

7. Калі арэндная плата ўнесена гаспадарскімі прадуктамі, то яна пры разьлічцы з вярнуўшымся ўласьнікам вылічаецца згодна істнуючым к момэнту ўнясеньня яе сталым цэнам. Калі сталых цэн у той час ня істнавала—вылічаецца па рыначнай цане.

8. Калі на здаваемай у арэнду зямлі знайходзіцца жывы і мёртвы інвэнтар, то такі, ў выпадку пільнай патрэбы, можа быць уступлены мелкім арэндатарам, згодна ўстаноўленым Міністэрствам Земляробства і Дзяржаўный Маентнасьці правілам:

а) шляхам прадажы за налічныя грошы,

б) парадкам выплаты, але ня больш чым у трохгадовы срок,

в) шляхам здачы ў арэнду.

Пры здачы ўспомненага, ў гэтай стацьці інвэнтара ў арэнду, арэндатар павінен за яго ручацца сваёй уласнай рухомай маентнасьцю, чы прадставіць паручацельства асобы маючай нярухомую маентнасьць, або арэндатары асобнай зямельнай гаспадаркі павінны ўсе пісьменна абавязацца нясьці за яго супольную адпаведальнасьць.

9. Не пазьней як за 6 месяцаў да канца умовы, Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці, або вярнуўшыйся ўласьнік павінен заявіць арэндатору аб тым, што тэрмін арэнднай умовы канчаецца. Калі аб гэтым нябудзе апавешчана, то арэндатар мае права аставацца на мейсцы на тых самых варунках яшчэ на адзін год.

10. Гэты закон прыводзіцца да выкананьня Міністэрствам Земляробства і Дзяржаўнай Маентнасьці.

Прэзыдэнт Дзяржавы **Сьметона**
і Старшыня Міністраў **Гальваноўскі.**
Коўна, 30 лістапада, 1919 г.

## Міністры Літвы:

**Міністэр ЗаграНічных Спраў Д-р Язэп Пурыцкі** радзіўся у 1883 году. Вучыўся ў м. Коўна. Вышэйшую адукацыю атрымаў ў Пецярбурзе і ў Швэйцарыі, гдзе больш ізучаў гісторыю і атрымаў ступень доктара. Падчас вайны працаваў ў літоўскіх палітычных і грамадзянскіх арганізацыях ў Швэйцарыі. З пачатку 1918 г. ён працўе пры літоўскім

